# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ І.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:

за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 16. Менск, Панедзельнік, 29 верасьня 1919 г. № 16.

Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## Справа утварэньня беларускага войска.

Патрэба мець сваё нацыянальнае беларускае войско адчувалася вельмі дауно. Яшчэ з першых дзен рэволюцыі гэтае пытаньне падымалося на беларускіх політычных сходах, але не магло набраць належнай сілы, каб стаць жыцьцевым фактам дзеля шмат якіх прычын. Ідэяльогія беларускіх політычных арганізацыяу да таго падлягала уплывам маскоускіх соцыялістау, што старэйшая наша політычная партыя, Белар. Соцыяліст. Грамада, на зьезьдзе у 1917 г. пастанавіла, што справа утварэньня нацыянальнага войска есьць контр-рэволюцыйны крок буржуазіі, што нацыянальнае войско патрэбно не народу, а буржуазіі для контр-рэволюцыйных замерау. Разумееца, пастанова гэта была прадыктована расійскай баязьню сэпаратызму і ня трэ' было доуга чакаць, каб работнікі Грамады праканаліся, што яны паддаліся салодкім напевам соцыялістычных маскоускіх імпэрыялістау. Ды калі-б гэтага і ня было, то трудна было спадзявацца, каб магчымо было приступіць у той час да конкрэтных крокау у гэтым кірунку. Беларускае войско было небяспечно для расійцау, а самі беларусы былі задужа слабы, каб зрабіць гэта, абмінаючы згоду расійскага ураду. Не маглозьдзейсьніцца гэта і пры нямецкай окупацыі па той простай прычыне, што немцы ніколі ня лічыліся з беларусамі, дзеле чаго арганізацыя беларускага войска была-б для іх непатрэбным клопатам.

Цяжкая гістарычная доля пастаянна ставіць Беларусь у залежнасьць ад яе суседзяу. Цяпер доля нашага краю цесна зьвязана з доляй Польшчы: нашая політычная самабытнасьць многа залежыць ад падтрыманьня з боку апошняй. Беларусь праз усю гісторыю была цесна зьвязана з Польшчай і гэта політычная сувязь, парваная сусьветным гвалтам, зноу аднауляецца. Цяпер справа утварэньня беларускага войска стала у плошчу абойгага інтарэсу як Беларусі, так і Польшчы. Калі для Беларусі сваё войско зьяуляецца справаю жыцьця, справай політычнага, нацыянальнага і культурнага істнаваньня, то для Польшчы ня меньш яно патрэбно, як верны і пэуны саюзьнік у справе абароны ад маскоуськай навалы, ад нашага супольвага гістарычнага ворага, абярнуушага беларускі край у руіны пажарышча і скалечышага нацыянальны твар нашага народу.

Беларусы Гродзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны дауно ужо робяць заходы перад польскім урадам у справе арганізацыі Беларускага войска, але да рэяльных скуткау ня дойдзено. Няма часу дашуківацца прычын, чаму справа да гэтага часу не набрала рэяльнага характару, але настау такі момант у гісторыі, калі польскае грамадзянство, асабліва польскае грамадзянство Белай Русі, павінна зрабіць усе ад яго залежнае, каб давесьці свайму ураду гістарычную патрэбу утварэньня беларускага войска. Гісторыя будзе судзіць ня адно тых, хто перашкаджау гэтаму, але і тых, хто не дапамог гэтаму. Беларускае войско—справа нашага абойгага інтарэсу. Гісторыя кліча нас супольна баравіцца ад агульнай небяспекі і абавязывае Польшчу неадмоуна працягнуць беларусам братэрскую руку дапамогі.

Час не чакае і калі гэта ня будзе зроблено цяпер, зараз-жа, без адкладау, то потым будзе позна. Беларусы робяць усе для утварэньня свайго войска, а калі яго ня будзе і калі наш край зноу здрыганецца ад расійскага наезду, то вінавата тут будзе Польшча. Яна трымае ініцыятыву, яна і адпавядае.

Мы—чакаем.

## Аграрнае пытаньне на Беларусі.

*(Працяг).*

Зямельная праграма расійскіх эсэрау у сваей аснове напамінае зямельные адносіны, істнуючые у станіцах Данскіх казакоу, калі гэтые адносіны трошкі корэктаваць.

Кожная станіца (воласць), маючая некалькі хутароу, (весак) мае пэуны абшар зямлі. Гэты абшар зямлі дзеліцца роуна паміж усімі мужчынамі станіцы, маючымі ня меньш 17 гадоу. Для малодшых хлопцау пакідаюцца у запасе дзялянкі, з якіх яны і надзельваюцца калі ім адбудзе 17 гадоу у працягу часу паміж перадзеламі. Перадзелы гэтые бываюць праз кожные 6, альбо 10 гадоу, як дзе. Тагды зноу уся зямля дзеліцца паміж усімі мужчынамі (казакамі), пачынаючы ад 17 гадоу і старшымі.

Дзеле таго, што у рожных станіцах ня роуные абшары зямлі, і народ множыцца ня роуна, то і зямлі прыходзіцца на кожнага казака ня роуна у рожных станіцах.

У вадной станіцы на душу прыходзіцца 7 дзесянцін, у другой 10 і т. д.

З памнажэньнем народу, з кожным новым перадзелам даляянкі (гаі) зьмяньшаюцца.

Калі падзел зямлі пашырыць і на кабет і калі усю дзяржаву зрабіці адною станіцаю, то, даючы народу аграномічную дапамогу, мы уістнім аграрную праграму эсэрау.

Трэба сказаць, што у такой формі карыстаньне зямлею у другіх мейсцох Расіі зводзіцца, а то і сусім зьявілося. У Маскоускай губэрні ад скасаваньня паншчыны блізка нідзе ня было перадзелау.

У нас перадзелы былі паміж скарбовымі сялянамі (сяло Малешэвічы, Бельскага павету, Гродзенскай губэрні), але па скасаваньні паншчыны сяляне падзялілі паміж сабою зямлю назауседы.

Такім чынам, самае жыцьце паказвае, што апісаная форма землекарыстаньня есьць ніжэйшая форме. І калі яна выводзіцца і шмат дзе вывелася у Расіі, то ня можа быць насаджана у нас на Беларусі, дзе індывідуальнасьць селяніна дапяла высокага стопня развіцьця.

Што тычыцца комуністычных гаспадарак, то аб іх ня варта навет гаварыць. Такіе гаспадаркі моцны сярод духаборау (сэктанты), але трымаюцца яны на аснове рэлігійнай ідэялегіі, а не эконамічнай, і іх комуністы лічаць навет шкадлівым дапусьціць у сваю партыю (глядзі „Извесгия").

Стараліся і інтэлігэнты у Расіі вясьці комунальные гаспадаркі (яшчэ да вайны), але гэтые гаспадаркі хутка распадаліся, а інтэлігэнцыя расходзілася ворагамі назауседы. І ня гледзячы на такіе прыклады, стараюцца завясьці комуны у весках.

Што тычыцца комун—маенткау, то яны, як і усе скарбовые гаспадаркі, не даюць ніякай карысьці народу. З іх карыстаюць толькі асобы, жывучые там.

Комуністычная гаспадарка ненавісна нашаму народу. Яна есьць паварот да паншчыны з тою рожніцаю, што пры паншчыне гультай

даставау у скуру, а пры комуне гультай езьдзіць на працавітым і зьдзекуецца з яго.

Комуністы застауляюць народ пагарджаць імі, як напэуна пагарджалі сяляне Л. Н. Толстым, каторы ня мог нічога лепшага рабіць у гаспадарцы, як хадзіць за сахою і бараною, не дарма ж рускі чалавек так зьненавідзеу сваю інтэлігэнцыю! Чалавек, каторы сваім розумам павінен даць работу тысячам людзей, замест гэтага сам бярэцца за простую работу і ад некага адбірае хлеб.

Пераходзячы да зямельнага пытаньня на Беларусі, мы павінны зазначыць, што наш народ мысліць сабе развязаньне гэтага пытаньня толькі у форме пераходу зямлі у яго уласнасьць. Ведама, што ен рад быу бы адтрымаць гэтую зямлю дарэмна, бяз выкупу, як абяцаюць эсэры, але свае зямлі, і навет дарэмна адтрыманай, ен напэуна нікому дарэмна ня дасьць, навет сваім сваяком. І я ведаю факты, калі інтэлігэнты, вышаушые з народу, з эсэраускім сьветапаглядам, адбіралі ад сваіх братоу, каторые памаглі ім выучыцца, і прадавалі чужым сваю дзель і гэтым нішчылі і без таго слабые гаспадаркі сваякоу.

Ці можна даць дарэмна зямлю тым, каторые дастаушы яе, напэуна дарэмна яе нікому не дадуць? Гэта моральны бок справы зямельнай.

На моральнай аснове так сама ня можна, надаючы дарэмна землю сялянам, крыудзіць пролетарыят, адбіраючы у яго дробные уклады у касы, якіе праз банкі былі пазычаны пад заклад маенткау, каб была магчымасьць вясьці у іх гаспадарку.

Затым ня можна, надаючы дарэмна зямлю народу, пусьціць з торбаю земляуласьнікау, каторые, як ні як, рабілі карысную працу, прадукуючы рэчы пажывеньня для таго-ж пролетарыяту.

**Х.**

*(Канец будзе).*

## Нашые валасьці.

*(Думкі і развагі.)*

Валасьць гэта інстытуцыя чыста сялянская, каторая павінна быць праудзівым сэрцам у жыцьці хлебароба. Яна павінна кіраваць гаспадаркай вескі энэргічна, шчыра і акуратна. Яна павінна быць тым цэнтрам, дзе селянін напраудзе знаходзіць сабе падмогу і параду у розных абставах і варунках вясковага быту. Валасьць павінна працаваць пастаянна над прогрэсам вясковай культуры, як у эконамічнай, так-сама і у духоунай часьці.

У часе самадзяржавія валасьць была проста карчмою для старшыны і пісара, карчмою для валасных судзьдзяу, якіе за кварту гарэлкі па сямейнаму разьбіралі сялянскіе справы, ужываючы розгі і халодную „зьверх праграмы“. Валасьць пужала сялян сваімі земскімі начальнікамі, падаткамі і недаімкамі. Старшыня і пісар былі тымі дэспатамі-царамі у сваім царстве, якіе гнулі сялян у тры дугі, дзерлі з іх па 7 скур без усялякай адпавядальнасьці за свае дзеі.

Што тычыцца валасьці у часе бальшавізму пад назваю „Валаснога іспалкому“, то аб гэтым ужо гаварыць не прыходзіцца. Гэтакая валасьць яшчэ болей узмацавала пагляд у сялян, што яны павінны знаходзіцца у пастаяннай паншчыне у валасьці.

Рэквізыцыя дабра, скаціны, дастаука хурманак і людзей для працы па валасьцех, крадзяжы народнага дабра давялі да поунай разрухі вясковую гаспадарку. Сяляне цяпер аб гэтым са страхам успамінаюць.

Валасьць вымагае цяпер вялізарных рэформау. На яе трэба зьвярнуць вялікую увагу дзеле налажываньня сялянскага жыцьця.

Валасные войты павінны быць вельмі добра знаемы з усімі умовамі жыцьця той валасьці, дзе яны маюць быць. Ні пад якім відам войт ня можа быць назначаным з другой мясцовасьці. Ен павінен ведаць добра беларускую мову, дзеле таго, каб вясьці усю канцэлярскую работу па беларуску.

Закладаньне коопэратывау па веасках гэта першая праца, якая чакае дзеячоу валасьці. У коопэратывах павінны быць усе патрэбные для сялян рэчы, уключаючы сюды сельска-гаспадарскіе прылады, культурнае насеньне і г. д.

Павінна быць назначана спэцыяльная камісія над развядзэньнем племяннай жывелы, якая за час вайны і за час бальшавізму была зьнішчана у нашым краю. Над лесам павінна быць аддзельная апека, так-сама павінен быць надзор над дарогамі і мастамі. Словам, трэба пільна глядзець за усей агульна-грамадзянскай гаспадаркай па весках.

**З. Бядуля.**

*(Канец будзе).*

## Уражэньні з Гродзеншчыны.

*(Канец).*

Поп м. М., зацьверджаны Гродзенскім архіерэям, гаворыць папольску, ведае і беларускую мову

## Стары будынак.

*(Канец).*

На другі дзень ен запамінау, што казэу, ды пачынау ізноу жаліцца. У цяжкай журбе ен часта зьвяртауся да Бога. Сьвятцы прыносіу у хату гандляра і па сьвятцах чытау малітвы. Станець перад абразамі, кладзець паклоны ды стукае лобам аб пол, аж гуз набьець, і з Богам бяседу вядзець. А то гукае сьвятых.

— Сьвяты,—і доуга успамінае імя,—маліся аба мне, рабе тваем Іане, каб я здароу быу.

— Сьвяты,—ды ізноу памаучыць, паглядзіць у сьвятцы, скажаць імя і папросіць у сьвятога ці грошай, ці здароуя, ці яшчэ чаго. А то карыць сьвятога, што ня гэтак памог яму, як ен аб тым маліуся.

— Ці-ж я цябе не прасіу, ці-ж я цябе не маліу, а ты не памог мне. Як-жа так? Дакуль-жа я буду маліцца? Памажы, хоць цяпер!

І доуга-б маліуся стары, каб ня гукалі яго ды не казалі, што маліцца—ужо яму так доуга не патрэбна.

Неяк пасьнедаушы, пашоу стары да гандляра. Маліуся доуга, а апасьля пачау у каменьчыкі гуляць: кідау каменьчыкі угору і лавіу, і дужа яму гэта падабалося. Хутка Марыся прыбегла клікаць дзеда на абед. Стары аж затроссяя.

— Не пайду!—і зноу пачау гуляць каменьчыкамі. Толькі хацеу ен пымаць каменьчык, аж Марыся перахвацiла. Вылаеуся дзед, вырвау у яе з рук камеьньчык і пабег у другі пакой. На гэта ніхто тагды не зьвярнуу увагі. Марыся гаварыла з гандлярыхай аб тым ды аб сім, а потым і пра пана.

— Як дзіце малое, цэльны дзень пан забауляецца з каменьчыкамі, а учора пані кажаць, што час яму паступіць на службу ды папара цкаваць свой пісьменны стол, дык пан гадзіны дзьве сядзеу: усе парадкавау свой стол,.. Ну, але гдзе-ж ен?

Хваціліся старога, аж яго няма. У пакоях так сама не было. Глядзяць: шуба вісіць, шапка так сама, а пана няма.

— Барані Божа, каб чаго ня прыдарылося з старым,—кажаць Марыся.—Пабягу да кватэры. Можа ен пайшоу без мяне, але як можна у такі мароз пайсьці бяз шубы і бяз шапкі?

Хутка пабегла і вярнулася: у кватэры няма пана. Перапужаліся усе. Усюды перашукалі: і пад павецьцю і у клуне, і у гумне,—нідзе не знайшлі.

Ужо на другі дзень шуканьня знайшлі старога у рове, які быу кале двара. Ен сядзеу, апершыся аб сасву, і закалелымі рукамі трымауся за грудзі і у адной руцэ трымау каменьчыкі у каравай анучцы. Губы яго былі адчынены. Увесь ен абсыпаны сьнегам. Паглядзець, дык як быццам спау стары, але ужо ніякага жыцьця ня было у ем: ен закалеу ад марозу.

**В. Бруевіч.**

але ужывае яе з народам, як вульгарную, выяуляючы у размове з народам ня лепшые, а найгоршые стораны беларускага духу. Ен лісьлівы з народам.

Адносіны папоу да сваіх прыхажан становяцца саусім іншымі. Можна думаць, што цэрква наша хутка зробіцца беларускаю, бо гэта у інтарэсах самога праваслаунага духавенства.

Па дарозе да сваіго швагра на хутар Бернатаушчыну трэба было ехаць праз веску Малую Сваротву, лес Незабітоускага і веску Кажухауцы. М. Сваротва добра адбудавалося. Шмат новых хат з смольнага, жоутага, як воск, дзерава. Хто і не пабудавау новай хаты, мае за хатаю столькі дзерава, што можна вывесьці новы пекны будынак. Лес Незабітоускага нешта вельмі успанялае. Хвоі такіе высокіе, што гнуцца, як смыке, і лес здаецца гаворыць з небам. Калі глядзім на вярхі сасен, то шапка валіцца з галавы. Апроч хвояк такой самай высокасьці елкі, бярэзіны, асіны, дубіны. Па дарозе ад мястэчка да лесу, на узгорках, растуць елкі. Пры паглядзе на іх чалавека агортвае смутак, а у галаве прыпамінаюцца словы і музыка Манюшкі „Szumią jodły na gór szczycie, a w mym sercu żal". Лес цяпер значна парадзеу, але усе ж такі напамінае яшчэ літоускіе лясы, як іх апісау Міцкевіч у сваім несьмяртэльным творы „Пан Тадэуш".

Кажухауцы ужо значна меньш адбудаваліся, хаця лес так сама ж недалека ад іх. У Кажухауцах мала уцекачоу. Веска цэлая, гаспадарка вядзецца, як і перш, а хлеба вясною не было, дзякуючы нямецкім рэквізыц. Карміліся больш зельем і бульбаю, а як дачакаліся новага ураджаю і паелі сьвежага хлеба, то шмат хто пайшоу на той сьвет.

Па мястэчках і селах Слонімскага і Навагрудзкага павету раз'езджалі разоу тры польскіе агітатары, каторые гаварылі па-польску, па-руску і беларуску і нахілялі народ прылучацца да Польшчы. Сярод каталікоу—беларусау агітатары гэтые мелі велькіе усьпехі.

Народ беларускі так замучан вайною у працягу ужо пяцех гадоу, што адзінае яго жычэньне гэта пакой. Яго рэквізавалі і ганялі у абоз і на работы немцы, пасьля бальшавікі, цяпер легіоны так сама патрабуюць дапамогі беларускага народу.

Тое, што было да вайны, цяпер зьяуляецца у вачах народу проста раем.

Рэволюцыя абманула народ: яна не дала яму таго, чаго ен чакау. І вось коло замкнулося. Прыйшлі зноу да таго, адкуль выйшлі. Народ любіць, каб жыцьце ішло правільна, як машына, каб наперад можна было усе вырахаваці, аблічыць і ужо па гэтаму вясьці сваю працу.

Што тычыцца інтэлігэнцыі, то яна цяпер так чуе сябе, як мокрая курыца. Жаднай організацыі паміж ею няма, нацыянальна беларускага духу вельмі мала. Цікава, што навет быушы сябар Гродзенскага беларускага камітэту у Петраградзі Д. цяпер нічога ня робіць, сядзіць у сваем хвальварку Е. і часам езьдзіць у Варшаву. Інтэлігэнцыя з рускім выхаваньнем чакае правалу бальшавізму. Тагды па яе мяркаваньню дойдзе да вайны паміж Дэнікіным і легіонамі, скуткам чаго Беларусь адойдзе зноу да Расії, як непадзельная часьць яе. „Я хачу", кажау адзін інтэлігэнт,—„каб я мог паехаць, куды я хачу: у Маскву, Вільню, ці Кіеу; каб я жыу так сама добра, як я жыу перш, дастаючы 75 руб. у месяц і раз'езджаючы у вагоні другога клясу. Незалежная Беларусь?! Нашто гэтые перагародкі?" Афіцэрство ідзе у польскую армію, ці да Дэнікіна.

Вынік з усяго гэтага такі. Мы ня ведаем, што можа прынясьці нам плебісцыт сярод беларусау. Напэуна можна сказаць, што праваслауные будуць галасаваць за прылучэньне да Расії, а каталікі за прылучэньне да Польшчы. І па плебісцыту Беларусь можа распасца на дзьве часткі і граніцаю іх будзе той пояс, дзе пароуні каталікоу і праваслауных. Каб гэтага няшчасьця, дзяленьня народу ня сталося, трэба лічыцца з Беларускаю Радаю, як з органам, злучаючым увесь беларускі народ, трэба даць беларускім дзеячом магчымасьць вясьці самую шырокую агітацыю, каб народ паслау у Сойм сьвядомых беларусау. Сойм вырашыць долю народу. А тым часам павінна вясьціся шырокая прасьвета у беларускім духу. Беларуская мова павінна быць абавязковым прадметам у польскіх школах, такім чынам, праз колькі гадоу беларусы будуць мець вялікую моц інтэлігэнцыі, а тагды ім ня страшны будзе і плебісцыт.

У цяперашні-ж момант плебісцыт можа прынясьці вялікую няспадзянку для нас. Трэба дадаць, што жыдоуство усей Беларусі напэуна галасавало-б за прылучэньне да Расії. **У.**

## Яшчэ аб Менскім Пэдагогічным Інстытуце.

Мы вельмі паважаем Беларускую Школьную Раду Меншчыны,

## Думка у дарозе.

Ціха у лесе, як у магіле, і канца яму няма. Усе едзем, едзем, а драмота так і кловіць голау.

— Ну, браток, колькі-ж верст мы праехалі?—пытаю хурмана.

— А хто іх ведае. Бог адзін... не стаімо,—адказвае ен, пачухаушы каля вуха.—Як бачыш, чорт іх тут меры ды лік згубіу, навет і цяцер шасты ад іх тырчаць праз усю пушчу а як да балота дацягнем, дык і іх ня відаць... Вярсту пэуне адкрамсалі, а гак застауся,—кончыу ен сваю гутарку і гукнуу на сівага: „Но, каб цябе воук задушыу! Хутчэй, а то, бачыш, мой пасажыр занудзіуся"...

Я, і праудa, трохі занудзіуся, хоць Бацькаушчыну ізноу бачыць, ізноу дыхаць добрым сасновым. духам было радасна, а некі сум шчэміць грудзі і здаецца, ня будзе канца гэтым лясом, гэтым балотам А там, паміж камлеу, дзе-ня-дзе стаіць убогая, пахіленая хата, і худы гаспадар сячэ тапаром некае бервяно, толькі гук па лесе ідзе: так, так!..

— Бог дапаможа, чалавеча!—гукаю я да небаракі, а ен падымае ціха голау ды кажа:

— Бог то Бог, а вось каб сам памог, дык другое дзело...

— А прауду кажаш, чалавеча. Стой, хурман! Няхай конь сапачыне, а я успомню сякеру,—кажу я хурману.

Конь стау. Я хутка зьлез з воза ды да чалавека.

— Ну, дзядзька, давай сякеру ды глядзі добра, каб я ад спрытнасьці шкоды не нарабіу.

— А калі умееш часаць, дык сам глядзі, каб роуна было, адказвае ен, аддаючы мне сякеру.

О, мой Божа! Дауно ня стукау я сякерай. Дауно ня бачыу я родных краеу, і цяпер з верай у новы час павяртаю да вас, да цемных лясоу, далекіх лугоу, да багністых балот, гдзе мой бедны брат ліу і лье сьлезы і пот у паднявольнай працы. Гэй, мая сякера, шпарка хадзі у руццэ, моцна сячы, каб чыста і роуна выходзіла работа, бо пойдзе яна на новую будыніну нашага жыцьця! Шумі і ты, цемны лес, шумі так, каб чулі твой шум, тваю песьню за сотні верст, ад краю да краю, каб ведалі усе, што настау час устаць усім на работу! Гуляй-жа, вецер, гураганам вый і будзі тых, хто яшчэ сьпіць! Раві па балотах, сгані усіх птушак, няхай ляцяць па сьвету і клічуць на работу! Бо час настау...

Бервяно скончана.

— Ну, дзядзька, гатова! Бяры назад сякеру.

— Дзякуй,—кажа ен.

— Ну, хурман, паедзем далей!—кажу я.

Эх, і рвецца сэрцо ад радасьці і хочацца гукнуць ва усе грудзі, каб пачулі ва усей старонцы! Гэй, браты, уставайце і той, хто спау, і хто прачнууся! Барджэй у цемную хату сьвет нясеце!..

**В. Адамовіч.**

але ані як ня можам згадзіцца з ею, што Менскі Інстытут „з самага пачатку меу выразны беларускі характар“. Тут некае непаразуменьне. Ен ня толькі у пачатку, а навет апошнім часам не парупіуся набраць беларускага характару. Наадварот, мы маем дакумэнты, каторые сьведчаць, што гэта упарты вораг беларушчыны. Гэта маскоуская пляцоука на Беларусі і такую установу трэба разрушыць да аснаваньня, а затым... пабудаваць новую, беларускую. Тое, што пры ем былі паасобные беларусы, мала гаворыць у яго абарону. І пры Японскай установе могуць быць Беларусы. А Менскі Інстытут верна служыу таму, хто яго паслау сюды, да самага апошняга часу.

Не пазьней, як 25 жніуня гэтага году, ен, чуючы небяспеку, увайшоу у зносіны з маскоускім байструком на Беларусі, з так званаю Менскаю Губ. Зем. Управай, пакінутай у нас маскоускім войскам, і пачау свой паход проці беларушчыны абходным парадкам. Менская Губ. Зем. Управа, як і іншые падобные установы, прыжытые беларускіміадшчапенцамі з Керэнскім. Пана Керэнскага самі расійцы дауно прагналі і праклялі яго і усе учынкі яго; нашы адшчапенцы да гэтага часу носяцца з ім, як дурань з пісанай торбай.

І вось Управа пытае 25 жніуня 1919 г. за № 62, а „колегія спэцыялістау-фільольогау Менск. Пэдагог. Інстытуту мае гонар адказаць“, што:

„Беларускі язык есьць падмова (нарэчые) агульна расійскай мовы“, што на ем выкладаць навук ня можна, што гэта „просты, разгаворны язык“ і т. д. і т. д.

Што-ж гэта такое? Якая-ж прычына прымусіла Бел. Школьную Раду узяць пад сваю апеку гэтых маскоускіх дзікароу у эуропэйскіх каунерыках? Ці ня ясна тут кожнаму, што справа не у фільольогіі, а у тым, што раз беларуская мова падмова расійскай, то Беларусь—Маскоуская провінцыя, а яны яе гаспадары. Дык хіба можна гэтакіх дабрадзеяу браць пад апеку? Гэта-ж ворагі нашага народу.

Калі у складзе настаунікау Інстытуту есьць сапраудные беларусы, то яны павінны протэставаць проці вышэй зазначанай „навуковай“ маскоускай гадасьці; затым, яны павінны выкінуць з свайго складу ворагчу беларускага народу і потым заняцца будаваньнем сапрауднага беларускага Інстытуту.

**Я. Ксяневіч.**

## Політычные навіны.

**Украінцы аддаюць Бэсарабію.**

ВАРШАВА, 22-IX. Украінскі Урад Петлюры зьвярнууся з дэкларацыяю да румынскага ураду, заяуляючы аб сваей гатоунасьці прызнаць за Румыніяй Бэсарабію на гэткіх варунках: офіцыяльнае прызнаньне украінскае валюты, офіцыяльнае прызнаньне Дырэкторыі Украінскай Рэспублікі, прызнаньне Украінскае місіі у асобе украінскага пасла у Букарэшце проф. Мацэевіча і незабауная дапамога Румыніі проці бальшавікоу, дакладнае акрасьленьне граніцау. Далей у дэклярацыі гаворыцца аб навязаньні прауна-політычных адносін паміж Украінай і Румыніяй.

**Бальшавікі прапануюць мір Антанце і Украіне.**

ЖЭНЭВА, 22-IX. Паведамляюць з Букарэшту, што да Глауная Кватэры Петлюры ізноу прыбыла бальшавіцкая дэлегацыя і запрапанавала мір на падставе незалежнасьці Украіны. Петлюра склікау Раду Міністрау, якая пастанавіла адкінуць пропозыцыю бальшавікоу.

БЭРЛІН, 22-IX. „Бэрлінэр Тагеблятт“ паведамляе са Штокгольму: Пэтарбурскі урад саветау упаважніу народных камісарау на мірные перагаворы з Антантаю на падставе зробленых ею пропозыцыяу. Першая конфэрэнцыя адбылася 19 г. м.

**Дэнікінавы урады на Украіне.** „Кіевлянін“ паведамляе, што вайсковые улады Дэнікіна пасьля заняцьця Кіева утварылі спэцыяльную урадовую інстытуцыю, якая будзе так зван. цывільным упрауленьнем. Гэта спэцыяльная рада заступае пакуль што Раду Міністрау і кіруе справамі, выходзячымі з компэтэнцыі вайсковых уладау. Прэзэсам Рады—гэн. Драгоміpау, намесьнікам яго гэн. Лукомскі, марское упрауленьне у руках віцэ-адмірала Герасімава, дзяржауны кантроль—Степанау, заграничные справы—Сазонау, памоцнікам яго Нератау, унутраные справы гэн. Носовіч, загадчык справау Нікольскі, кіраунік прасьветы Матынін,фінансы—Бернадскі, справядлівасьці—Чэлішчау, гандлю і промыслу—Лебядзеу, пропаганды—Соколау.

**Урад Петлюры.** Як паведамляюць з Каменца - Падольскага апошні склад украінскага міністэрыуму Петлюры гэтакі: старшыня міністрау і міністар унутраных справау Мазэпа, намесьнік яго др. Макух, міністар ваенны Петроу, міністар земляробства Кавалеускі, міністар справядлівасьці Андрэй Левіцкі, міністар прасьветы Копчэльніцкі, міністар працы Безпалко, міністар скарбу Мартос, міністар для Галіцыі Сымон Вітык. Міністэрыум складаецца на палову з галіцыйскіх русінау, а з боку партыйнасьці пераважаюць соц.-рэвол. і соцыяльдэмократы. Мазэпа паходзіць з левабережнай Украіны.

**Дэнікін і Петлюра.**

З веры годных крыніц паведамляюць: Дэнікін патрэбавау ад Петлюры прызнаньня непадзельнай Расіі пры шырокай аутаноміі Украіны. Калі-б Петлюра на гэта згадзіуся, то зараз-жа мусіць паддацца пад каманду Дэнікіна, на праціуны выпадак яму пагражаюць вайною нараўне з бальшавічамі.

**Паведамленьне Польскага Гэнэр. Штабу.**

*Ад 22 верасьня.*

**Фронт Л.-Беларускі.** Нашы аддзелы, посьле упорных баеу, занялі прадмесьце Полацку. Баі за пераправу праз Дзьвіну ідуць. На поудні ад Полацку занялі мы Ушач і Воран.

## БЕЛАРУСКАЯ КРОНІКА.

**Зьезд беларускіх дэлегатау Менскага округу** адбудзецца 20 кастрычніка.

Бюро па скліканьню зьезду складаецца з сяброу Рады: Вернікоускага, Міхалевіча і Козіча.

**Старшыня белар. ваенннай організацыі,** П. Алексюк, прыехау з Варшавы.

У хуткім часе ен займецца стварэньнем тут повятовых вярбовачных ваенных беларускіх бюро.

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Раздача хлеба.** Гэтымі днямі бяднейшым хрысьціянам Менску і ваколіцы будзе раздана 3,000 пуд. зярна, беработным чыгуншчыкам—3,000 пуд. Усе гэта ахвяровано з велікапольскай дывізыі.

**Біржа.** З дазволу польскай улады мае у хуткім часе быць адчынена офіцыяльная біржа.

**Курс поурублевак.** Курс расійскіх поурублевак да таго упау, што у мяняльных крамах і банкірскіх канторах за іх прапануюць усяго па 60 кап. за рубель. Дзіуна, чаму да гэтага часу няма на гэта офіцыяльнага тлумачэньня.

**Камісія** дзеле перагляду спрау арэштованых жыдоу закладываецца па загаду польскай улады.

**Запіс на дровы** у аддзеле апалу магістрату, дзеля ровных прычын, адкладываецца да 29 верасьня.

**Дровы, сяпедкі, галянтарэя, колоніяльные товары, канцэлярскіе і др. прылады** у вялікім ліку закуплены цэнтр. хаурусам коопэратывау Беларусі. Тавары гэтые ужо прыбываюць у Менск.

**Масло, сало, сернікі, шмальц і шынка** прадаецца па 2 фунты кожнаму у 1-м акружным урадавым харчавым магазіне (Захарауская, д. № 24).

**У жыдоускай абшчыне** сябры павінны плаціць на патрэбы абшчыны прогрэсіуны налог: ад прыбытку ад 25,000 р. да 75,000 руб. 1%; ад 75 да 150 тыс. руб.—1½%; ад прыбыткау вышэй 150 тыс. руб.—2%.

Абшчына дала 3,000 руб. на харчы усьвяты для арыштованых 60 жыдоу і 15,000 руб. на уладжэньне жыдоускіх сталовак.

**Хлеб** у урадавых магазінах аддзелу барацьбы са спекуляцыяй будзе прадавацца па 1 р. 25 кап. за фунт.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвал. Цэнзуры. Друкарня Інвалідау, Менск.